Між звяроў пайшла трывога,
Бо сарока зноў трашчыць:

— Бачу, бачу насарога,
Востры рог яго тырчыць.



«Ён жа нас усіх раструшчыць! —
Дзікі жах бярэ звяроў.—
Насарог у нашай пушчы.
Ці не з Афрыкі прыйшоў?»



А сарока балабоніць:
— Вунь на сцежцы насарог.
Уцякайце, бо дагоніць,
Мае ён тры пары ног!



Хто ў імху,
А хто ў балоце —

Пахаваліся звяры.
Страх ваўкоў ажно калоціць,
І дрыжыць ліса ў нары.



Белабока з усёй сілы
На кусце лазы крычыць:



— Насарог той мае крылы,
Як захоча — паляціць!





Гэту вестку як пачулі,
Паўцякалі хто куды
Казадоі і зязюлі,
Курапаткі і дразды.



Толькі зай пытае строга:
— Што яшчэ за насарог!
Ці ж бывае ў насарога
Два крылы, шасцёра ног?

Белабокая сарока
Захіхікала ў лазе:

— То не з Афрыкі далёкай
Гэты насарог паўзе...



І ў звяроў прайшла трывога.
Вылезлі яны з бярлог:
З чорнай спінкай,
З вострым рогам

Міма поўз жук-насарог...

